# РЭФОРМА АДУКАЦЫІ

## ЎДАРЫЦЬ НАЙПЕРШ ПА БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ ШКОЛАХ

**Кіраўнік Беларусі паабяцаў узняць заробак настаўнікам. Але міністр адукацыі патлумачыў, што грошы на гэта знойдуць, закрываючы школы. Такіх можа аказацца каля паўтысячы.**



Міністр адукацыі Сяргей Маскевіч заявіў, што ўжо да наступнага году ў Беларусі будзе значна скарочаная колькасць школаў. Дакладныя лічбы стануць вядомыя ў лютым, але ўжо цяпер ясна, што ў першую чаргу пазбавяцца ад школаў, якія завуць малакамплектнымі (дзе навучаюцца меней за 50 вучняў), а таксама ад шэрагу ўстаноў, што засталіся з савецкіх часоў.

«Прызнаем немэтазгодным захоўваць вячэрнія школы, потым — вучэбна-вытворчыя камбінаты», — заявіў міністр.

Паводле яго слоў, неабходна таксама вырашыць праблему з напаўняльнасцю класаў.

У 2012 годзе ў Беларусі ўжо значна скарацілася колькасць школ. Тады былі закрытыя 114 (у 2011 — 128), а рэарганізаваныя 96 школ. Агулам за 5 апошніх гадоў колькасць такіх установаў зменшылася на 460, саміх навучэнцаў стала менш на 228 тысячаў чалавек. Цікава, што за тыя самыя 5 гадоў у Беларусі акрыліся толькі 34 новыя школы.

Шанцы захавацца ў мінулым годзе мелі толькі тыя вясковыя школы, што знаходзіліся ў аграгарадках, «за ракой», альбо бліжэйшая школа знаходзіцца далей, чым у 15 км. Такіх агулам апынулася амаль паўтысячы.

Але настроі ва ўрадзе кажуць аб тым, што менавіта з гэтымі школамі расправяцца ў першую чаргу, каб знайсці грошы на ўтрыманне іншых.

### У БУЙНЕЙШЫМ ГОРАДЗЕ КРАІНЫ ТОЛЬКІ 2% ШКОЛЬНІКАЎ ВУЧЫЛІСЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

Цяперашняя рэформа можа апынуцца надзвычай балючай.

Менавіта вясковыя школы застаюцца апошняй цвярдыняй беларускай мовы ў сістэме адукацыі.

У 2010/2011 гадах па-беларуску навучаліся толькі 19% школьнікаў.

Яны пераважна хадзілі ў вясковыя школы (толькі 2.1% вучыліся па-беларуску ў Менску). Пры гэтым паводле афіцыйнай статыстыкі Мінадукацыі, два гады таму 52.1% агульнаадукацыйных установаў краіны працавалі на беларускай мове.

Тое ж і з асобнымі прадметамі. Да прыкладу, гісторыю Беларусі па-беларуску там вывучаюць 20–25%. У гарадскіх школаў такіх вучняў не болей за 5%.

Тое ж самае і з геаграфіяй Беларусі: у вёсках 56% вучняў праходзяць прадмет на мове тытульнай нацыі, а ў гарадскіх школах гэты паказчык нашмат меншы.

Колькасць абітурыентаў, што здаюць беларускую на ЦТ, пастаянна змяншаецца. Новая рэформа ЦТ стане апошнім цвіком у труну беларускамоўнай адукацыі ці прымусіць здаваць абедзве мовы ўсіх?

generation.by

# КАК НАС ОБСЛУЖИВАЮТ?

**До отправления поезда было еще минут 20. Я стояла на железнодорожном вокзале в Киеве и любовалась проводницами нашего фирменного состава «Белый аист», который вот-вот должен был отправиться в Минск.**

Красивые форменные пальто, белые пуховые береты и шарфики, да и сами девочки на загляденье, молодые, ладненькие. Пассажиры степенно заходили в чистые вагоны -- как приятно, когда тебя ждут прибранные купе. Вдруг из 10-го вагона вышел на перрон немолодой пассажир и нервно поинтересовался, почему не расстелена постель. Он был на взводе: «Мне, инвалиду, да еще на верхней полке таскать матрасы тяжело!» Проводница сказала, что это не входит в ее обязанности. «Но мы заплатили вам такие деньги за билет!» - продолжал мужчина возбужденно. «Кому это «вам»? - вдруг раздраженно рявкнула проводница. - Лично мне вы ничего не платили!» Из «фирменной» девушки, обаятельной хозяйки вагона, вдруг выглянула такая «комаровка», такая вульгарная торговка… Это было довольно оскорбительно. И на что, собственно, намекала проводница - заплатить лично ей, дать на «лапу», на чай, тогда она возьмется за услугу? «Э-эх!»- только и ответил человек.

Это было аккурат 6 декабря вечером. Я не вмешивалась в диалог - кто любит воспитание со стороны? Но надеюсь, что старшие по званию товарищи объяснят молодому работнику (хотя уверена, что уроки вежливости на Белорусской железной дороге проводятся постоянно), что ответить отказом пассажиру можно и нужно (мы ведь действительно не знаем всех тарифов на услуги). Но главное, как это сделать. Можно по-королевски спокойно и доброжелательно. А можно по-базарному крикливо. Проводница 10-го вагона, к сожалению, скатилась до второго варианта, честь фирмы и формы поддержать на заявленном уровне не смогла. И белый берет здесь, как говорится, ситуацию не спас. Оба - и она, и пассажир - остались какими-то обляпанными. Словечко-то не воробей, а, оказалось, настоящая ворона…

Почему нас плохо обсуживают? Когда-то считалось, что все дело в частной собственности: капиталистический сервис априори высокого класса. Что не лишено, конечно, смысла. Одна старая дама, помню, полушутя-полусерьезно говорила своей маникюрше в салоне «Мечта», который до сих пор действует в центре Минска на улице Ленина: «Нет, я дождусь, дождусь того времени, когда не я за вами, а вы за мной, клиентом, будете бегать!» В парикмахерском бизнесе сейчас так и произошло. На государственной железной дороге - лишь отчасти: она монополист, мы у нее в заложниках. Но дело не только в форме собственности, на мой взгляд. Мне кажется, в нашей ментальности, в принципе, нет (или явно недостаточно) такого качества, как услужливость. В общем, не белорусская национальная это черта. Мне кажется, мы с вами прямые, как рельсы. А настоящая услужливость - это артистизм, это предупредительность, это слово, ничего общего с холуйством, раболепием, конечно, не имеющее. В конце концов, услужливость - хорошо конвертируемая валюта. А ее у нас везде дефицит.

Что еще огорчает до глубины души, так это то, что мы, потребители, в принципе, за свои права не умеем и не знаем, как бороться. Опять-таки скажу про транспорт: вот городское маршрутное такси. Мы в Минске платим за проезд нынче немалую сумму - 7 тысяч. Предполагается, что за эти деньги получаем место для сиденья и довольно быстрое перемещение по городу. Но в час пик маршрутки из такси превращаются в обыкновенные автобусы, которые подбирают с остановок как можно больше пассажиров, и люди (по собственной воле, конечно) стоят там, как в каком-то колодце, скорчившись в полутьме. При этом тоже, как и сидящие пассажиры, платят по 7 тысяч! Все без чека, естественно. Разве для вас это новость? По




умолчанию мы даем заработать частному бизнесу в карман, деликатно входя в их перманентно трудное материальное положение. Но о наших интересах бизнес так не печется, не волнуется. Мало того, что маршрутки - это, как правило, допотопные грязные драндулеты, так еще их название - такси - просто не соответствует заявленной услуге. Едут медленно, пассажиры стоят, всем тесно и неудобно. Это знает горисполком, это знает ГАИ - почему не наводят порядок, почему не пресекают обыкновенное воровство?

Однажды, когда в таком «такси» на моих плечах уже буквально висело несколько человек, я спросила у водителя машины: «Зачем вы останавливаетесь, когда в салоне нет мест?» Он державно посоветовал мне воспользоваться более дорогим видом транспорта (о, знакомые речи: «не нравится - не берите!»). А потом сказал, что вообще может вернуть мне мои 7 тысяч и - вываливайся-ка, дорогуша, из моей маршрутки и топай пешком! И по-купечески протянул денежные купюры…

Вот что такое частный бизнес. У нас. Мы переплачиваем и миримся с обманом. И я даже знаю почему. У большинства белорусов буквально в крови заложена формула «лишь бы тихо». А кое-кто на этом, между прочим, неплохо зарабатывает.

nv-online.info

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА ШТОДНЯ

**У самай папулярнай сацыяльнай сетцы свету з'явілася старонка «Беларускае слова штодня», дзе публікуюцца рэдкія альбо добра забытыя беларускія словы з тлумачэннем і спасылкай на крыніцу. Аўтар гэтага праекту Аляксандр Навіцкі. Вось якія цікавасці можна там знайсці.**




1. **Дніць,** незак. Вставлять дно.

То ён [Міхал Сцяпура] часаў бервяно, то дніў кадушку, то рабіў колы, то правіў загарадзь. Чорны.

Крыніца: Беларуска-расейскі слоўнік безэквівалентнай лексікі

2. **Зюзь** м. — горкі п'яніца, п'янчужка

Крыніца: Беларуска-расейскі слоўнік (Байкоў-Некрашэвіч)

3. **Квадранец** — чвэрць гадзіны

Крыніца: «Слоўнік беларускай гаворкі» І. Насовіча

4. **Бярозавік**, -у, м. Напиток из берёзового сока.

Частуе [Крот] церпкім ад скіслых хлебных скарынак бярозавікам. Навуменка. Снег рыхлы з'елі туманы, — бярозавік цячэ ў збаны. Бялевіч.

Мужчына зачысціў і паглыбіў надсек на бярозе, і бярозавік пабег амаль што цурком, буйнымі і крыху мутнаватымі кроплямі, падобнымі на ваду, якая толькі пачынае кіпець. Казько.

Крыніца: Беларуска-расейскі слоўнік безэквівалентнай лексікі

5. **Бяседнік**, -а, м., разм. Участник застолья, званый гость.

Ноч навылёт вірыла застоліца, а на світанні, у няпэўным святле аплытых свечак трохі цверазейшыя з бяседнікаў змецілі, як бацька і сын заснулі ў высокіх, аздобленых разьбою крэслах, звесіўшы русявыя галовы на грудзі… Арлоў.

Крыніца: Беларуска-расейскі слоўнік безэквівалентнай лексікі

6. **Віскуцень**, -тня, м., абл. Пронизывающий ветер, сопровождающийся характерным звуком.

Дай хвіліну пагрэцца ў цябе. Віскуцень навылёт праймае. Лобан. Першасакавіцкае сонца марна намагалася сагрэць зямлю, але ранішні віскуцень ўгамаваўся, і на плошчы было даволі людна… Арлоў.

Дзьмуў вецер-віскуцень, глуха шумела мора. Воранаў.

Крыніца: Беларуска-расейскі слоўнік безэквівалентнай лексікі

7. **Гартоўны**, -ая, -ае. Крепкой закалки.

Трэба іх [горны] напаліць дачырвона, каб вораг не мог іх таптаць больш нагамі, каб, ударыўшы словам гартоўным, адказваў полымем камень. Танк.

…І хочацца грудзьмі зваліцца й плакаць доле, на вецер там пусціць, развеяць смутак свой, развеяць успамін, як блукаў той тут калісь, што прозвішчам сваім гартоўным скрозь звінеў… Коршак.

Крыніца: Беларуска-расейскі слоўнік безэквівалентнай лексікі

8. **Блажыць**, незак., безас., разм. Ощущать тошноту, дурноту.

Здавалася, ад шуму галава падымалася ўгару, кружылася, і ад таго яго, Ратушняка, блажыла. Пташнікаў.

Пад горла падступала нешта атрутнае, горкае, але не блажыла. Адамчык.

Раптам Валю ад паху самагонкі, што патыхала ад Лукашыка, стала блажыць. Дамашэвіч.

Крыніца: Беларуска-расейскі слоўнік безэквівалентнай лексікі

9. **ЦЯПЕР І ЗАРАЗ**

Шмат хто, вывучыўшы беларускую мову з кніжак, мяркуе, што словы «цяпер» і «зараз» – абсалютныя сынонімы. Трактуюць «зараз» як беларускі адпаведнік расейскаму «сейчас» у двух яго значэннях і гавораць: «зараз добрае надвор'е» або «зараз пяць гадзін». З пункту гледжання традыцыйнай беларускай мовы такое ўжыванне проста памылковае.

Ад «зараз» на месцы «цяпер» перасцерагалі ў XX ст. шматлікія айчынныя аўтары. Прычына ўся ў тым, што «зараз» – слова з прасторы будучага часу. Беларускае «зараз» – знак, што нешта адбудзецца неўзабаве, хутка, па малым часе, вось-вось: зараз прыйду, зараз зраблю, зараз убачым. Можа быць і зараз іду – калі дзеяслоў цяперашняга часу ўжыты ў значэнні будучага, калі маем на думцы, што праз які малы час пойдзем. Натуральнае ў нашай мове прыслоўе «зараз» і пры паказанні, што нешта адбывалася, адбываецца або можа адбыцца адразу пасля нечага: скажам, «зраблю зараз жа пасля свята», «як прачытаў, зараз жа напісаў».

Як бачым, слова зараз мае тыповыя ўласныя ролі ў мове. Як, зрэшты, і прыслоўе «цяпер». Нам застаецца толькі ўжываць кожнае слова на сваім месцы. Вось напрыклад: «цяпер раніца», «цяпер снедаем і слухаем радыё», а «зараз ужо будзем збірацца», «зараз пойдзем з дому».

Крыніца: Юрась Бушлякоў, «Жывая мова» © Радыё Свабода.

**www.facebook.com**

**Малюнак Г. Лабадзенка.**
**Праект «Дзіцячая заМова»**

## ВОСЕМ ПАМЫЛАК У АДНЫМ СКАЗЕ



ГОМЕЛЬСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

ГОМЕЛЬСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

Камандзірчыку А.А.

Ваша заяўка, адрасаваная на імя начальніка аддзела па кіраванні будаўнічым комплексам и жыллёвай палітыке Гомельскага гарвыканкама Смалько В.К., па пытанню перспектывы драўляных дамов па вул. Валатаўская, накіравана па прінадлежнасці ў управление архітэктуры и градабудаўніцтва Гомельскага гарвыканкама, для разгляду і падгатовкі адказу.

Першы наместнік старшыні А.Н. Чыстік

**Гомельскі гарвыканкам даслаў адказ актывістам «Талакі» па пытанні захавання драўлянай забудовы ў цэнтры горада.**

Нагадаем, актывісты моладзевай краязнаўчай грамадскай арганізацыі «Талака», гарадской арганізацыі ТБМ, а таксама іншыя ініцыятывы і неабыякавыя грамадзяне падпісалі калектыўны зварот да ўладаў за захаванне ўнікальнай драўлянай забудовы, якая зараз руйнуецца ў цэнтры горада. Заклікалі правесці грамадскія слуханні па дадзеным пытанні.

Згодна з законам «Аб зваротах грамадзян», адказ з дзяржаўных структур павінен давацца на мове заяўніка. Але актывісты «Талакі», якія звярталіся ў гарвыканкам на беларускай мове, атрымалі адказ на трасянцы. У адным толькі сказе – пра накіраванне ліста ў іншую структуру, былі дапушчаны восем памылак. Так, напрыклад, было напісана, што «жыллёваё палітыке», «драўляных дамов», «накіравана па прінадлежнасці», «падгатоўкі».

Падпісаны адказ так: «наместнік» «А.Н.Чыстік» – нават тут дапушчаны памылкі!

Раней выявілася, што і ў пракуратуры не ведаюць беларускай мовы. Апазіцыянер Кастусь Жукоўскі звяртаўся са скаргай у пракуратуру на беларускай мове. Адказ ён атрымаў не нейкай мове, аддалена падобнай на беларускую. Напрыклад, у тэксце адказу ўжываюцца фразы «накіроўваю для разгляду па істоце» (замест «па сутнасці»), «апавяшчаю Жукоўскага аб напрамку звароту для дазволу пракурору» (замест «паведамляю Жукоўскаму аб накіраванні звароту для вырашэння пракурору»). Упраўленне Следчага камітэта названае «кіраваннем Следчага камітэта».

**spring96.org**

## TOTAL COMMANDER ПЕРАКЛАЛІ НА БЕЛАРУСКУЮ ЛАЦІНКУ




**Папулярны файлавы мэнэджар атрымаў яшчэ адну моўную лакалізацыю.**

Энтузіяст пад нікам MiHLitvin дадаў на сайт праграмы пераклад на беларускую лацінку.

«Fajly», «Vylucennie», «Zahady» — такія надпісы будуць у меню пасля ўстаноўкі.

Зрэшты, для закачкі ёсць і беларуская кірыліца. Усе моўныя варыянты даступныя па адрасе http://www.ghisler.com/languages.htm

**Паводле nn.by**

# ГДЕ ЗИМУЮТ ПТИЦЫ?



**С 1 по 31 января общественная организация «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) проводит Зимние учеты птиц-2013.**

Принять участие в зимних учетах могут все желающие. Среди участников наблюдений будут разыграны значки с водоплавающими птицами.

Благодаря участию в зимних учетах большого количества наблюдателей, создаются возможности для выявления интересных фактов зимовки различных видов птиц.

Для того, чтобы принять участие в Зимних учетах водоплавающих птиц-2013, необходимо выполнить 5 простых пунктов:

1. Определить любой из январских дней (можно несколько), в который удобно будет провести наблюдения.

2. Подготовить блокнот и ручку для записи, по возможности бинокль и определитель птиц.

3. Определить место и примерный маршрут, который может пролегать как в лесу, так и в городе.

4. Во время учетов сосчитать встреченные виды птиц, записать названия видов и их количество, отметить количество птиц которых не удалось определить.

5. Сообщить нам о результатах наблюдений одним из следующих способов:

- через он-лайн форму;
- на e-mail info@ptushki.org;
- через наши группы на Facebook или VKontakte;
- или заполнить бумажную версию анкеты и выслать по почте до 7 февраля координатору — Ивану Богдановичу в секритариат АПБ на адрес: а/я 306, Минск, 220050 с пометкой «Зимние учеты птиц-2013».

Учеты проходят при поддержке НПЦ НАН Беларуси по биоресурсам, Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды и Министерства образования Республики Беларусь.



ptushki.org

# ОДИН В ПОЛЕ - ВОИН

**«Что я могу один?» - эту фразу часто можно слышать в качестве оправдания за своё бездействие. Однако, и один в поле воин - если действительно хочешь изменить мир вокруг, самое время начинать прямо сейчас, и начинать именно с себя.**



## ПЯТНАДЦАТЬ ШАГОВ, КОТОРЫЕ МОЖЕТ СДЕЛАТЬ КАЖДЫЙ, ЧТОБЫ ПОМОЧЬ ПЛАНЕТЕ

1. **Избегайте использования пластиковых пакетов или сократите их использование до минимума.**

Вместо них используйте многоразовые холщевые сумки. Это не только эко-дружелюбно, но и модно. Собираясь в магазин, не забывайте брать с собой сумку, чтобы не приобретать пакет.

2. **Избегайте одноразовых товаров, которые слишком быстро оказываются на свалке.** Особенно это касается одноразовой посуды

3. **Выбирайте товары с меньшим количеством упаковки** или в упаковке, сделанной из перерабатываемого материала, например, из бумаги. Приобретайте продукты на развес. Избегайте пластиковой упаковки!

4. **Избегайте использования изделий из поливинилхлорорида (ПВХ)**.

Этот материал не только очень вреден для здоровья человека в процессе использования, но и загрязняет окружающую среду в виде отходов.

В мире не существует безопасных технологий переработки ПВХ, а при его сжигании выделяются диоксины - крайне вредные для здоровья вещества. К изделиям из ПВХ относятся оконные и дверные профили, виниловые обои, отделочные материалы, искусственная кожа и многое другое

5. **Для наружной и внутренней отделки дома и квартиры, выбирайте натуральные материалы.** Таким образом вы сможете избежать вдыхания веществ, выделяемых синтетическими отделочными материалами, что поможет сохранить здоровье вам и вашей семье.

6. **Выключайте освещение и электроприборы, которыми не пользуетесь**. Это также касается электроприборов в режиме stand by. Вы сэкономите более 200кВт-ч в год.

7. **Используйте энергосберегающие лампочки** вместо обыкновенных ламп накаливания. Вы сэкономите около 800кВт-ч в год при замене 10 лампочек.

8. **Заботьтесь о сохранении тепла в помещении в холодное время года**. Если вы не имеете возможности поставить деревянные стеклопакеты, то утеплите окна другими способами.

9. **Принимайте короткий душ вместо ванны.** Это сэкономит тысячи литров воды в год. Для ванны требуется 140-160 л воды, для душа - только 30-50л.

10. **Выключайте кран, когда чистите зубы.** За минуту из полностью открытого крана вытекает 12-20 литров воды.

11. **Проводите раздельный сбор мусора.** Выбрасывайте пластик, стекло, макулатуру и ветошь в специализированные контейнеры.

12. **Покупайте товары местного производства.** Этим вы не только поддержите производителя в своей стране, но и сделаете свой вклад в дело борьбы с изменением климата. Ведь чем дальше расстояние на которое транспортируется товар, тем больше парниковых газов выбрасывается при сжигании топлива на транспортировку.

13. **Не выбрасывайте добротные старые вещи,** которые ещё могли бы послужить. Лучше отдайте их тем, кто в них нуждается.

14. **Сократите потребление красного мяса до двух раз в неделю.** Этим вы не только разгрузите свой организм, но и повлияете на уменьшение выделения метана, который является одним из основных парниковых газов.

15. **При выборе товаров бытовой химии обращайте внимание на химические компоненты в составах аэрозолей и стиральных порошков.** Они могут содержать опасные вещества, вызывающие раздражение кожи, воспаление слизистых оболочек глаз и носа, затруднение дыхания, кашель, приступы удушья, головную боль, увеличивают риск аллергии и даже раковых заболеваний.

bresteco.by

# ЗА СВАБОДУ І ЗЯМЛЮ

## ЛАГІШЫНСКІ ЗЯМЕЛЬНЫ БУНТ 1874-1876

**Першае пісьмовае ўпамінанне аб Лагішыне адносіцца да 1552 года, калі пасяленне згадваецца ў "Пісцовай кнізе Пінскага княства", як "востраў на Лагішыншчыне" Берасцейскага ваяводства ВКЛ.**

Мястэчка мела свой герб "Воўк на ласіных нагах" (гэты ж герб і зараз).

Кароль Уладзіслаў IV у 1643 годзе дае мястэчку Лагішын Магдэбургскае права з усімі вольнасцямі, якімі карысталіся многія гарады ВКЛ.

Граматай былі вызначаныя і зямельныя ўладанні мястэчка. Лагішынскія мяшчане ў вечным валоданні мелі пашы (землі тыя – пясок сярод балота) з невялікай платай у каралеўскую казну (дарэчы, гэты прывілей быў адным з нямногіх на тэрыторыі ВКЛ).

Аднак, ужо па другім падзеле Рэчы Паспалітай (1793) Лагішын быў пазбаўлены гарадскіх правоў. Зямлю, праўда, пакуль не кранулі. А праз амаль 30 гадоў, у 1828 годзе расійскія ўлады ўсё ж пацвердзілі зямельныя правы мяшчан, атрыманыя імі раней.

У гэты час у 400 дамах Лагішына пражывалі каля 2800 жыхароў. Дзейнічаў касцёл (пабудаваны яшчэ ў 1634). Пры ім была ўтвораная езуіцкая місія, пры якой узнік бясплатны шпіталь і аптэка. Меліся гандлёвыя рады. Ладзіліся 2 двухтыднёвыя гадавыя кірмашы.

Крыху пазней у Лагішыне была створаная і яўрэйская малітоўная школа.

У прыгарадзе дзейнічаў ветраны млын, працавала маслабойня, скураны цэх. Па Ясельдзе зімою і летам ездзілі да Гарадзішча. У Ясельдзе лавілі рыбу, у лясах збіралі грыбы і ягады, палявалі (дзічыны было шмат).

У верасні 1771 году праз Лагішын праходзіў Аляксандр Сувораў, як прыбыў у наш край па загадзе расейскай імператрыцы Кацярыны II для падаўлення канфедэратаў. У гэты час Расея і Прусія выступілі з праектам ураўнання у правах хрысціян-некатолікаў з каталікамі. Але гэтаму знайшліся праціўнікі, якія стварылі канфедэрацыю. Гэта не спадабалася Кацярыне II і яна сілай свайго войска разграміла барскіх канфедэратаў, што садзейнічала першаму падзелу (1772) Рэчы Паспалітай.

У 1772 годзе ў Лагішыне пачалі будаваць Прачысценскую царкву (грэка-каталіцкую). Дарэчы, яна згарэла ў 1842 годзе, а на месцы пажарышча паставілі капліцу.

Пасля III падзелу Рэчы Паспалітай (1795) раптам 2260 жыхароў Лагішыну (з 2800) "прымаюць" праваслаўе. Дакладней, усё гэта было па змушэнню. Але каталікі ўпарта адстойваюць свае рэлігійныя традыцыі. Касцёл расейскія ўлады зачынілі толькі ў 1863 годзе, а дакладней, перадалі яго праваслаўнай царкве.

У апошняй чвэрці XIX стагоддзя Лагішын становіцца вядомы амаль ва ўсёй Расеі і замежжы ў сувязі з так званай "Лагішынскай справай". Аб гэтым тады пісала і расейская, і замежная прэса.

Памятаеце аб той зямельнай Грамаце, якую пазней пацвердзілі расейскія ўлады? І вось, у 1865 годзе менскі губернатар Токараў пры дапамозе начальніка менскай губернскай люстрацыйнай камісіі забіраюць лагішынскія пашы, а гэта 131 валока (2755 га), у казну.

А праз амаль 10 гадоў было аддадзена распараджэнне, якое давала права губернатару Токараву "за заслугі" усе пашы выкупіць за 14 тысяч рублёў, з выплатай на працягу 20 гадоў.

Аднак лагішынскія сяляне аддаваць зямлю не збіраліся.

Пачалі ва ўсе інстанцыі накіроўваць скаргі, у тым ліку і губернатару. Аднак адказу не было.

І толькі ў 1874 годзе ўлады паведамілі, што ў сувязі з рашэннем "справы", зямлю яны чапаць не маюць права. А тут і сеяць трэба! І ўборка не за гарамі! Узнікла незадаволенасць, якая перарасла ў гвалт. Пралілася кроў.

Тады ўлады накіроўваюць у Лагішын з Пінска 50 супрацоўнікаў паліцыі, узброеных і на конях. Аднак яны не здолелі ўціхамірыць бунт. Бунтавалі больш тысячы лагішынцаў.

Пачалося следства. Паведамілі губернатару Токараву.

У 1875 годзе Міністэрства унутраных спраў дасылае ў Лагішын генерала Лашкарова на чале двух батальёнаў пяхоты і з сотняй казакоў.

З кроўю, але бунт задушылі. Тры дні усіх лагішынцаў білі розгамі. Пяць галоўных завадатараў этапам саслалі ў Сібір. 20 чалавек асудзілі на 12 год катаргі. Мяшчанам прысудзілі выплаціць у казну больш 5 тысяч рублёў кантрыбуцыі.



Сучасны герб Лагішына

Аднак мяшчане не здаюцца. Наймаюць адваката і накіроўваюць скаргі ў Пецярбург. Акрамя гэтага, у мяшчан быў і пакравіцель, нехта Уладзіслаў Галенскі. Было гэта ў 1875 годзе.

А 23 красавіка 1876 году купчая губернатара Токарава была адмененая і ўсе старажытныя правы лагішынцаў былі пацверджаныя.

Аднак пройдзе яшчэ не адзін год, пакуль з катаргі і Сібіры вернуцца завадатары бунту. Вінаватыя, праўда, таксама былі пакараныя: губернатар Токараў і генерал Лашкароў былі вызваленыя ад службы бяз права працы на дзяржаўнай службе.

Лагішынцам вярнулі іх землі, выплаты ў казну і матэрыяльныя страты на вядзенне судовых спраў.

І гэтымі землямі лагішынцы карысталіся да сярэдзіны XX стагоддзя, да калектывізацыі.

**reha.of.by**

# НОВЫ ГОД - НЕ «ПО ВЕЛЕНИЮ ПЕТРА»

**Беларусы святкуюць Новы год з 1387 года. А калі дзень 1 студзеня стаў лічыцца першым днём новага году?**



Вядома, што ў старажытных земляробскіх супольнасцях год пачынаўся ў сакавіку з новым цыклам работы ў полі. У візантыйскай традыцыі прынята было пачынаць год з верасня. «Гэта ішло ад даўніх грэцкіх і малаазійскіх культур, — тлумачыць гісторык Алег Дзярновіч. — Традыцыя ж лічыць год ад 1 студзеня пайшла з Старажытнага Рыму».

Запачаткаваў яе не хто іншы, як Юлій Цэзар, які стаў у Рыме не толькі імператарам, але і вярхоўным жрацом. Рэфармуючы каляндар, ён перанёс пачатак года з сакавіка на студзень — месяц, прысвечаны богу Януарыю.

Гэта паганскае боства часу, пачатку і канца мела ва ўяўленні рымлянаў два аблічча. Януарый нібыта і аглядаўся на мінулы год, і глядзеў у будучыню.

Рымскі каляндар пашыраўся па свеце спачатку разам з рымскімі легіёнамі, пасля — з рымскай каталіцкай Царквой.

З Рыму ідзе і адна з традыцый святкаваць пачатак новага года. Казус, які паслужыў прычынай для гэтага, быў звязаны з канцом свету.

Людзі чакалі, што з надыходам 1000 года нашай эры вырвецца на волю біблейская пачвара Левіяфан і скончацца зямныя часы. Аднак прабіла поўнач — і катастрофы не адбылося. Роспач у Рыме змянілася на ўсеагульную радасць і святкаванне.

У першы дзень Новага года Папа Сільвестр II упершыню сказаў прамову urbi et orbi — «гораду і свету». З таго часу яна стала традыцыйнай.

Народ у масе сваёй да часу ставіўся менш пільна: гістарычная памяць вялікай часткі насельніцтва не сягала далей таго, што памятаў дзед ці прадзед — далей былі легендарныя часы.

«На беларускую зямлю традыцыя пачынаць год ад 1 студзеня прыйшла разам з пераходам у каталіцтва панучай дынастыі ды масавым хрышчэннем насельніцтва», - кажа Алег Дзярновіч.

Гэта мог быць Ягайлаў хрост 1387-га, калі вялікі князь, выконваючы абавязальніцтвы, узятыя на сябе падчас Крэўскай уніі, пераводзіў Літву з паганства ў хрысціянства рымскага абраду.

«Хаця, - дадае Алег Дзярновіч, - да XVI ст. працягвала існаваць і традыцыя візантыйскага летазлічэння, калі Новы год пачынаўся з 1 верасня. Але можна сказаць, што ў Беларусь сучасны каляндар прыйшоў 625 гадоў таму».

**Паводле: nn.by**

## ДАРЭЧЫ

Прадаю вясельныя сукенкі. Памеры - 44, 46, 48, 50, 52, 54. Няма сілаў больш чакаць! Люся.

***

Праблема людзей, якія лічаць, што беларусы, расейцы ды ўкраінцы — адзін народ, у тым, што яны не могуць гэтага сказаць ані па-беларуску, ані па-ўкраінску.

***

На лекцыі па тэме «Здаровы лад жыцця».

Лектар: «Наша дзяржава змагаецца з курэннем, яна падымае кошты на цыгарэты, робячы іх меней даступнымі!».

З аўдыторыі: «І з алкагалізмам яна гэтак жа змагаецца?».

Лектар: «Ну так!».

З аўдыторыі (цішэй і задуменней): «І з прадуктамі...».

***

Ідзе ўрок. Настаўнік правярае хатняе заданне:

- Пеця, ты чаму не зрабіў урокі?
- Нагу вывіхнуў.
- Садзіся, два. Вася, а ты чаму не гатовы?
- Бабуля захварэла.
- Садзіся, два. Вовачка, а ты чаму не зрабіў?
- Брат з зоны вярнуўся.
- Няма чаго мяне братам палохаць, садзіся тры.

***

- Учора з бацькамі сваёй дзяўчыны пазнаёміўся!
- Ну, і як?
- Прынялі, як роднага сына. Бацька нават рэмня даў!

***

Бабуля, прыйшоўшы ў міліцыю, каб апазнаць мужчыну, які яе абрабаваў, ткнула пальцам у партрэт прэзідэнта.

***

Дзяўчына заходзіць у кабінет тэрапеўта:

— Доктар, у мяне баліць галава!

— А я ні на што і не прэтэндую…

***

- Чаго не спаў – не давалі?
- Калі бы мне не давалі – я бы спаў…

***

Муж з жонкай прыязджаюць у перапоўнены санаторый. Яго з цяжкасцямі пасяляюць у мужчынскі блок, а яе – у жаночы. Праз некалькі дзён мужу не хапае цярплівасці. Ну, ён і просіць жонку пабыць з ім на прыродзе ўвечар. Карацей, знайшлі яны кусты, і ў самы разгар працэсу з'яўляецца вартаўнік.

- Ну што, штраф заплацім або пратакол складзем?
- Штраф, вядома!
- Тады з цябе тысяча а з яе пяць!
- Ой а чаму такая дыскрымінацыя?
- Ды цябе я першы раз тут бачу, а яе ўжо ў пяты раз!

***

У паліклініцы:

- Вы карысталіся прэзерватывам пры апошнім палавым кантакце?
- Доктар, чаму вы так злавесна вымавілі "апошнім"?

***

У Беларусі не варта казаць «ідзіце ў задніцу». Варта казаць «усім заставацца на сваіх месцах!».

***

Звычайна паркур у Беларусі пачынаецца з крыкаў «АМАП!»

Паважаная кампанія «Лагітэч»! Перамясціце на вашых клавіятурах літару Ю далей ад літары Б, а літару З далей ад Х! Загадзя дзякуй.

Подпіс: Юля Зуева.

***

- Я перадумаў, я не буду гэта купляць.
- Але я ўжо выбіла чэк!
- Дык забіце яго назад!!!

Матуля прыводзіць сваю 18-гадовую дачку да лекара:

-Доктар, маю дачку пастаянна цягне есці салёнае.

Лекар агледзеў дзяўчыну і кажа:

-Ваша дачка цяжарная, на пятым месяцы…

-Ды вы што, доктар, мая дачка - цаца, яна ніколі не была з мужчынам! Праўда, любая?!

-Нават не цалавалася ні разу!!! – кажа дачка.

Доктар моўчкі падыходзіць да акна і пачынае пільна глядзець удалечыню. Праходзіць 5 хвілін.

-Доктар, нешта не так? – пытае маці.

-Не, не. Проста ў такіх выпадках узыходзіць яркая зорка і тры вяшчуны спускаюцца з гары. Вось стаю, чакаю…

***

У бібліятэцы, каб атрымаць літаратуру, трэба запоўніць "чытацкае патрабаванне" – адмысловую форму, куды ўпісваюцца аўтар, назва, шыфры і г.д.

Падыходзіць да бібліятэкаркі бландынка, просіць нейкі падручнік. Тая ёй адказвае:

- Мне трэба патрабаванне.

Бландынка, крыху падумаўшы, выдае:

- Ну, дык я ПАТРАБУЮ!

***

Тыя, хто дастаткова разумны, каб не лезці ў палітыку, потым церпяць ад таго, што імі кіруюць ідыёты.

***

Гутараць дзве бландынкі.

- У мяне ўчора быў выдатны сэкс. Нам абодвум так спадабалася, што мы паўтарылі ўсё некалькі разоў!
- І хто гэта быў?
- Не прымай мяне за дурніцу. Калі я і скажу аб ім каму-небудзь, то ўжо ніяк не жонцы гэтага хлопца!

***

На сайце падчас канферэнцыі пытанне лекару:

- Маю двух сталых палавых партнёраў. Ад аднаго з іх жадаю зацяжарыць. Як засцерагацца ад другога? (прэзерватывы не падыходзяць).
- Адмовіцца ад кантактаў з другім партнёрам.
- Здзекваецеся?! Не магу – звольняць!

***

На курсах падрыхтоўкі да інстытута, выкладчык:

- Вырашым задачу. На нітцы вісіць брусок. Куля прабівае яго наскрозь і ляціць далей, страціўшы палову хуткасці. Знайдзіце вугал фі, на які адхіліўся брусок.

Дзяўчына з першай парты:

- А у вас ёсць задачы пра вавёрачак і арэшкі?

Выкладчык:

- Вядома. На нітцы вісіць вавёрачка…

***

Фразу аб тым, што мужыкі жадаюць ад жанчын толькі аднаго, часцей за ўсё паўтараюць тыя жанчыны, ад якіх мужыкам і гэта адно, шчыра кажучы, не вельмі трэба.

***

- А чаму ў цябе ў вучэбным класе ўсе сістэмныя блокі пад сталамі стаць?
- А мне падабаецца назіраць, як студэнткі USB-порт шукаюць.

- Дарагі, я табе катлетак да гарэлачкі насмажыла. Будзеш?
- Вядома, дарагая. Я толькі з-за іх і прыйшоў.
- Як? А з-за мяне?
- Ну, вядома, з-за цябе, родная… Ты ж абяцала катлетак насмажыць!

***

- Прабачце, вы б не маглі выдыхаць дым у іншы бок?
- Калі бы я мог выдыхаць дым у іншы бок, я бы выступаў у цырку.

***

Увосень у сауны горада паступае тое, што ўлетку не паступіла ў ВНУ.

***

Спыняе міліцыянт машыну з бландынкай за рулём.

- Вашы правы, калі ласка.
- Чаго?
- Правы, калі ласка.
- А што такое правы?
- Гэта такая штучка з вашым фотаздымкам.
- Аааа. (Капаецца ў сваёй сумачцы. Дастае люстрачка).
- Калі ласка.

Міліцыянт глядзіць у люстрачка:

- Ну, што ж вы адразу не сказалі, што вы міліцыянт.

***

Бландынка на сумоўі:

- Вы ў школе якую мову вывучалі?
- У трыццатай.

***

– Куме, а знаєте, не всі москалі такі погані...

– Та невже? Назви хоч одного хорошого!

– Ну, наприклад, Жерар Депардьє…

***

Мама прыехала на вячэру да свайго сына Сашы, які жыў у адной кватэры з суседкай Вікай.

За вячэрай мама маўчала, адзначыўшы пра сябе прыгажосць суседкі. Яна раней падазравала наяўнасць сувязі паміж гэтай парачкай, і гэты факт толькі ўзмацніў яе цікаўнасць. Назіраючы пасля вячэры за іх зносінамі, мама задумалася, ці ёсць нешта большае паміж Сашай і яго суседкай, чым яна ўбачыла.

Здагадаўшыся пра думкі мамы, Саша катэгарычна заявіў: "Я ведаю, пра што ты думаеш, але запэўніваю цябе, мы з Вікай толькі суседзі".

Праз тыдзень Віка звярнулася да Сашы:

- Пасля таго, як у нас вячэрала твая мама, я не магу знайсці срэбную цукарніцу. Спадзяюся, гэта не мама яе ўзяла?
- Я не думаю, але я напішу ёй e-mail.

І ён сеў, і напісаў:

"Дарагая мама, я не хачу сказаць, што ты ЎЗЯЛА цукарніцу, я таксама не кажу, што ты НЕ БРАЛА яе. Проста факт застаецца фактам – пасля твайго прыходу срэбная цукарніца знікла. З любоўю, Саша".

Праз некалькі дзён ён атрымаў адказ ад мамы:

"Сынок, я не кажу, што ты СПІШ з Вікай, я таксама не сказала, што ты НЕ СПІШ з ёй. Але факт ёсць факт: калі б Віка спала ў СВАІМ ложку, яна даўно знайшла б там цукарніцу. З любоўю, мама".

***

- А кім ты працуеш?
- Ну, у мяне вельмі старажытная прафесія!
- Ты прэзідэнт Беларусі?

***

Ад безвыходнасці ў Берасці скінхэды разграмілі пункт прыёму каляровых металаў.

Дзедзіч ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 26.01.2013 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі
**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Мікалаева, А. Каховіч, П. Дайлід, У. Красько, А. Трус. **Адказны за выпуск:** Вольга ЯРАМЧУК.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў